Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 270.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Аўторак, 26 траўня 1998 г. | № 54 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Мірон у Оршы

**У мінулую пятніцу цэлыя тры гадзіны над будынкам Аршанскага гарвыканкама лунаў бел-чырвона-белы сцяг.**

Мясцовыя аглядальнікі выказваюць версію, што такім чынам нехта з аршанцаў адзначыў не толькі чарговыя ўгодкі рэферэндуму 1995 года, але і буйны кадравы перагрус у мясцовай міліцыі: 19 траўня міністр Валянцін Агалец зняў з пасадаў цэлую групу афіцэраў Аршанскага гарадскога аддзела ўнутраных справаў на чале з начальнікам ГАУС Сцяпанам Гетманчуком.

*БелаПАН*

## Гомель даганяе Светлагорск

**Да 1 траўня ў Гомелі было выяўлена 47 заражаных вірусам СНІДу. За тры апошнія тыдні месяца лічба павялічылася яшчэ на 25 чалавек (пераважна гэта наркаманы).**

Цяпер праблемамі СНІДу павінен займацца мэр Гомеля Аляксандр Якабсон, які раней 10 гадоў кіраваў сталіцай беларускай наркаманіі і СНІДу — Светлагорскам.

**Алена НЕСЫН**

## Дзіця без будучыні?

**У Магілёве зафіксаваны ўжо другі выпадак, калі заражаная СНІДам жанчына нарадзіла дзіця.**

Пра гэта паведаміў дырэктар Магілёўскага цэнтра захворванняў на СНІД Леанід Варшаўскі. Жанчына пакуль не хварэе: яна толькі носьбіт смяротнай заразы. А пра здароўе немаўляці лекары на сённяшні дзень могуць казаць толькі агульнымі фразамі. Ці ёсць у арганізме дзіцяці вірус СНІДу — можна будзе высветліць пазней.

**Іван ЗАСАДА**

## Мадонна прыехала да беларусаў

**По Беларусі падарожнічае скульптурная выява Маці Божай Фацімскай. На мінулым тыдні яна пакінула Мінск і накіравалася ў Ракаў і Заслаўе.**

Скульптуру прывезлі з Партугаліі, дзе ў 1917 г. Маці Божая явілася дзецям-пастушкам каля вёскі Фаціма. Цяперашняя пілігрымка па нашай краіне павінна сімвалізаваць адраджэнне касцёлаў у Беларусі.

У кожнай парафіі скульптура знаходзіцца толькі адны суткі; у гэты час ладзяцца спецыяльныя набажэнствы, служыцца святая імша, людзі моляцца за свае храмы. У прыватнасці, вернікі парафіі св.Юзафа, якая пакуль месціцца ў звычайным гаражы на завулку Багдановіча ў Мінску, моляцца, каб улады нарэшце выдзелілі пляц і далі дазвол на будаўніцтва сапраўднага касцёла. А ў парафіі св.Яна, што ў Серабранцы, — іншыя праблемы: пляцоўку пад будаўніцтва ім выдзелілі, але якраз у тым месцы, дзе праходзіць высакавольтная лінія... Усе спадзяюцца, што Маці Божая Фацімская ім дапаможа.

**Магдалена НЕПАКАЙ**



*На здымку: Маці Божая Фацімская каля Чырвонага касцёла ў Мінску.*

## З Брэста ў Рым

**Трое пілігрымаў з Брэста былі прынятыя Папам Рымскім Янам Паўлам II.**

Святар Ігар Кандрацьеў,а таксама вернікі-ўнiяты Андрэй Крат і Ігар Бараноўскі, якія ў сувязі з пяцігадовым юбілеем грэка-каталіцкай (уніяцкай) абшчыны ў Брэсце вырашылі ажыццявіць паломніцтва па святых месцах. Два тыдні яны на аўтамабілі падарожнічалі па Еўропе, маліліся ў манастырах і цэрквах грэка-каталікоў Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Італіі, Венгрыі. Падчас аўдыенцыі ў Ватыкане Папа блаславіў іх на развіццё ўніяцкай царквы.

*БелаПАН*

### Эканоміка

***Па звестках міністэрства статыстыкі, доля стратных прадпрыемстваў складае 25,4% агульнай колькасці. Найболыш неэфектыўных прадпрыемстваў — на транспарце, у бытавым абслугоўванні, жыллёва-камунальнай гаспадарцы і ў будаўніцтве.***

### Даўгі

***Запазычанасць беларускіх прадпрыемстваў партнёрам па СНД дасягнула 20 трыльёнаў рублёў. Асноўная частка запазычанасці — 17,9 трыльёна — прыпадае на даўгі перад расійскімі прадпрыемствамі. У агульным аб'ёме доля запазычанасці за газ складае 34,1%.***

ВАЯЖ

## Яраслаўскі ўік-энд

**Лукашэнку нарэшце ўдалося з'ездзіць у Яраслаўскую вобласць. Напрыканцы мінулага тыдня ён два дні правёў у гэтым расійскім рэгіёне.**

Нагадаем, што візіт Рыгоравіча ў Яраслаўль планаваўся яшчэ восенню мінулага года, але тады крамлёўскае кіраўніцтва паставіла перад Лукашэнкам умову — паездка можа адбыцца толькі пасля вызвалення з турмы здымачнай групы Паўла Шарамета. Рыгоравіч маскоўскаму ціску не паддаўся — і праседзеў у мінскім аэрапорце некалькі гадзінаў, а дазволу на вылет Расія так і не дала. На гэты раз запрашэнне наведаць Яраслаўль даслаў асабіста Барыс Ельцын. Афіцыйна візіт беларускага прэзідэнта быў прымеркаваны да Дзён славянскага пісьменства і друку, але натуральна, што абмежавацца рамкамі чыста культурніцкай акцыі Рыгоравіч проста не мог. Лукашэнка наведаў Яраслаўскі маторны завод, які вырабляе рухавікі для беларускіх МАЗаў і БелАЗаў, дзе параіў рабочым не рваць гаспадарчых сувязяў з Беларуссю, а таксама сустрэўся з губернатарамі сямі расійскіх абласцей, якія прыехалі ў Яраслаўль на тыя самыя Дні пісьменства.

Вернасць сацыялістычным прынцыпам Лукашэнка выразна прадэманстраваў і падчас канферэнцыі, прысвечанай Дням славянскай культуры. Нас прымушаюць сінхранізаваць рэформы па ўзоры Расіі, але я катэгарычна супраць гэтага — заявіў Лукашэнка. *«Супраць таму, што мы бачым вынікі гэтых рэформаў і не хацелі б мець такія ж вынікі ў Беларусі»*, — патлумачыў ён.

Паколькі канферэнцыя праходзіла ў гадавіну падпісання т.зв. саюза Беларусі і Расіі, закрануў Лукашэнка і інтэграцыйную тэму. Ён упарта лічыць, што нейкія ўплывовыя сілы на Захадзе баяцца з'яўлення моцнага канкурэнта ў асобе саюза славянскіх дзяржаваў, таму імкнуцца перашкодзіць. На пытанне журналістаў, ці не з'яўляецца паездка ў Яраслаўль пачаткам кампаніі Лукашэнкі па барацьбе за пост прэзідэнта Расіі, беларускі лідэр заявіў, што ён не расійскі грамадзянін і таму не можа балатавацца ў прэзідэнты гэтай краіны. Са сваімі выбарамі вы разберацеся і без мяне — заявіў Лукашэнка.

Акрамя гэтых сустрэчаў, Лукашэнка паспеў пагуляць у Яраслаўлі ў хакей супраць мясцовай каманды «Тарпеда» (дзеля гэтага ён прывёз з сабою цэлую каманду беларускіх хакейных ветэранаў), наведаў нядаўна адрэстаўраваны праваслаўны манастыр і ўсклаў кветкі да помніка Максіму Багдановічу. Дарэчы, учора мінуў 81 год з дня смерці Максіма, і ў Мінску да помніка паэту людзі таксама прынеслі кветкі. Афіцыйных асобаў сярод іх не было. Класікаў беларускай літаратуры Лукашэнка і ягоныя паплечнікі шануюць толькі знаходзячыся за мяжою.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Грошы - не галоўнае?

### Дайце адпачыць станку

Беларусы ўжо прывыклі жыць без грошай, а вось сядзець без працы мы ніяк не можам. Ведаючы гэтую звычку нашых людзей, прэзідэнт краіны загадаў «дасягнуць у прамысловасці ўзроўню 1990 г.» Праўда, кіраўнік дзяржавы не растлумачыў, навошта выпускаць тое, што ніхто не купляе. Але пачалі даганяць дзевяносты год. І ўжо маем першыя вынікі: на складах прамысловых прадпрыемстваў сёння ляжыць амаль 24 трыльёны рублёў у выглядзе гатовай прадукцыі. Прычым за чатыры апошнія месяцы запасы павялічыліся на 44 працэнты. Амаль палова зробленага і нерападзенага прыпадае на Мінск і сталічную вобласць.

Такім чынам, складаецца ўражанне, што прамысловасць краіны можа ў поўным складзе сысці ў летні адпачынак. Навошта дарэмна паліць электрычнасць ды пераганяць метал у стружку?

### Беларускі варыянт народнага капіталізму

У краінах з «нармальнай» эканомікай грошы насельніцтва з'яўляюцца галоўнай крыніцай фінансавання эканомікі. У Беларусі гэта не так. У нас людзі альбо не маюць «лішніх» грошай, а тыя, хто мае, часта баяцца даваяраць іх банку. Калі верыць статыстыцы, рэгулярна ў банк грошы нясе толькі 1 сям'я з 20.

Другі канал капіталізацыі зберажэнняў насельніцтва — набыццё акцыяў і каштоўных папераў. Тут мы наогул рэкардсмены: у месяц на адну сям'ю на гэтыя мэты траціцца ўсяго 1 тысяча 300 рублёў. Нічога сабе, народны капіталізм, калі акцыі купляе толькі 1 сям'я з 1.000.

На куплю валюты сярэднестатыстычная сям'я штомесяц расходавала каля 80 тысячаў рублёў, а рэальна долары-маркі куплялі толькі 4% сем'яў, трацячы на гэта больш 2 мільёнаў рублёў у месяц. Зразумела, што і гэта з'ява не масавая. Да таго ж валюту купляюць, каб зберагчы свае грошы ад інфляцыі альбо выехаць за мяжу ў адпачынак ці за таварам.

Магчымасці для накаплення ў нашага насельніцтва не вялікія, бо амаль усе грошы трацяцца на бягучыя патрэбы. Для параўнання: сума ўкладаў насельніцтва Нямеччыны ва ўстановы банкаў складае каля 1,8 трыльёна марак, а паўсядзённыя свае патрэбы немцы абслугоўваюць усяго 250 мільярдамі, інакш кажучы, «на руках» ва ўладальніка стотысячнага багацця маецца ўсяго 14 тысячаў наяўнымі. Такім чынам, банкі, а калі шырэй, то і эканоміка краіны ў цэлым кормяцца грашыма насельніцтва, таму ні ўрад, ні фінансавыя інстытуты не кідаюцца ў розныя інфляцыйныя гульні: нічога не прыдбаўшы, так можна згубіць усё. У нас жа ўсё не так.

### Літоўская «мінімалка»

Урад Літвы прыняў пастанову, згодна з якой мінімальная заработная плата з 1 чэрвеня павялічваецца з 400 да 430 літаў (са 100 да 107,5 долара ЗША). Такім чынам, мінімальны дзённы заробак павялічыцца да 5 долараў, што прыблізна адпавядае месячнай мінімальнай зарплаце ў Беларусі (250 тысячаў «зайчыкаў»). У сакавіку сярэдняя зарплата ў Літве складала каля 240 долараў, цяпер яна павінна павялічыцца амаль да 260 долараў. Гэта пры тым, што кошты на асноўныя прадукты ў Літве ніжэй за нашыя.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Сувязь падаражэла

**З 22 траўня Белпошта падвысіла кошты перасылкі пісьмаў у краіны СНД і Балтыі, а таксама ў «далёкае» замежжа.**

Цяпер на звычайнае пісьмо вагой да 20 грамаў у СНД трэба наклеіць марак на 3.800 рублёў. Авіяпісьмо ў «далёкае» замежжа будзе каштаваць 9.400 рублёў, а пісьмо, што пойдзе наземным шляхам, — 5.800 рублёў. Для пісьмаў у Літву і Латвію тарыф такі ж, як і для краінаў СНД. Затое да краінаў «далёкага» замежжа паштавікі адносяць Эстонію і чамусьці Азербайджан.

Падаражэлі і тэлефонныя размовы з краінамі СНД і Балтыі. Хвіліна тэлефонных перамоваў з Украінай каштуе 7.900 рублёў, з Малдовай — 10.700 рублёў, з Расіяй — 10.700 (еўрапейская частка) і 11.200 (азіяцкая частка). Хвіліна размовы з Арменіяй, Грузіяй, Казахстанам і Кыргызстанам каштуе цяпер 14.000 рублёў, а з Азербайджанам, Таджыкістанам, Туркменістанам і Узбекістанам — 16 тысячаў. Што датычыць краінаў Балтыі, то танней за ўсё патэлефанаваць цяпер можна ў самую далёкую — Эстонію (18.200 рублёў за хвіліну). Адна хвіліна размовы з Літвой каштуе 19.300 рублёў, а з Латвіяй — 21.200 рублёў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Назавіце прозвішчы...

**Магілёўскія ўлады адмаўляюць у рэгістрацыі Магілёўскаму праваабарончаму цэнтру.**

Цэнтр быў створаны ўжо паўгода назад, тады заснавальнікі падалі дакументы на рэгістрацыю новага грамадскага аб'яднання, аднак упраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама адмаўляецца аформіць дакументы. Па словах аднаго з кіраўнікоў цэнтра, чыноўнікі патрабуюць, каб праваабаронцы ўказалі канкрэтныя прозвішчы людзей, чые правы збіраецца абараняць цэнтр. Акрамя таго, улады хочуць, каб цэнтр адмовіўся ад заяўленага ў статуце «супрацоўніцтва з міжнародным праваабарончым рухам».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Чым менш правоў...

*...тым болей праваабаронцаў*

У Мінску адчынілася бюро амерыканскай праваабарончай арганізацыі *Union of Councils* («Саюз саветаў»). Дзейнасцю гэтай арганізацыі ахопленыя амаль усе постсавецкія рэгіёны — Закаўказзе, Балтыя, Расія, Украіна, Казахстан.

Гэтая арганізацыя ўзнікла ў 1970 годзе, і тады яна спецыялізавалася на абароне правоў савецкіх габрэяў, якім адмаўлялі ў выездзе з краіны. Пасля скону Савецкага Саюза *Union of Councils* пераключыўся на агульнаправавыя пытанні. *«Калі на першае месца пастаўленыя правы асобы,* — гаворыць дырэктар беларускага бюро Якаў Басін, — *тады забяспечваюцца правы і нацыяў, і грамадства».*

Беларускае бюро *Union of Councils* будзе рабіць маніторынг сітуацыі з правамі і свабодамі чалавека, а таксама адпаведнасці заканадаўства міжнародным абавязацельствам Беларусі ў гэтай галіне. Арганізацыя будзе браць пад асаблівую ўвагу парушэнні правоў людзей, якія сутыкаюцца з судовай сістэмай і турмою, і збіраецца актыўна ўдзельнічаць, па словах Басіна, у *«найбольш адыёзных справах — такіх, як справа дэпутата Андрэя Клімава».* Басін сказаў, што ў падобных справах *«ў іншых постсавецкіх краінах нашай арганізацыі ўдавалася аказваць людзям дзейсную дапамогу».* *Union of Councils* мае намер супрацоўнічаць з іншымі праваабарончымі арганізацыямі — у першую чаргу з Беларускім Хельсінкскім камітэтам і Беларускай праваабарончай канвенцыяй, прадстаўнікі якіх прысутнічалі на адкрыцці бюро.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



## Андрэй Клімаў маўчыць

**Тацяна Клімава атрымала ў пятніцу магчымасць сустрэцца з мужам, які сядзіць у мінскім следчым ізалятары.**

Прадпрымальнік і дэпутат Андрэй Клімаў утрымліваецца пад вартай ужо чацвёрты месяц, яго абвінавачваюць у крадзяжах у асаблівa буйных памерах і парушэнні парадку прадпрымальніцкай дзейнасці (будаўніцтва без ліцэнзіі). Замест дазволенай гадзіны сустрэча мужа і жонкі Клімавых цягнулася 25 хвілін. Па словах Тацяны, яе муж трымаўся бадзёра і скаргаў не выказваў, хаця з 6 траўня рэзка пагоршыліся ўмовы яго ўтрымання — Клімава перавялі ў камеру, дзе на двое нараў прэтэндуюць чатыры чалавекі, таму спаць даводзіцца па чарзе. Клімаў па-ранейшаму адмаўляецца даваць следчаму паказанні, бо лічыць свой арышт незаконным.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## «Фабрыка думак» прыехала ў Гомель

**У мінулую суботу Беларуская асацыяцыя фабрык думак праводзіла ў Гомелі семінар, на якім сацыёлагі і палітолагі паведамілі вельмі цікавыя звесткі.**

Выступоўцы сцвярджалі, што амаль увесь беларускамоўны электарат пражывае ў вёсцы, мае нізкі адукацыйны ўзровень і галасуе за Лукашэнку, а рускамоўны — жыве ў горадзе, мае высокую адукацыю, падтрымлівае незалежнасць краіны, дэмакратыю і гатовы галасаваць за ... Біла Клінтана. Аўдыторыя таксама даведалася, што за апошнія гады значна змяніліся прыярытэты моладзі. Зусім нечакана для сацыёлагаў першае месца сярод жыццёвых каштоўнасцяў новае пакаленне аддае здароўю (97%), сяброўству (90%) і сям'і (83%). Вельмі высокі рэйтынг маюць матэрыяльны дабрабыт, любімая работа і каханне (па 82%). А вось патрыятызм, рэлігія, войска і ўлада аказаліся ў аўтсайдэрах (ад 8% да 28%).

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Першы Герой Беларусі

**Прайшло роўна два гады з таго дня, калі ваенны лётчык падпалкоўнік Уладзімір Карват цаной уласнага жыцця выратаваў ад гібелі дзесяткі людзей.**

Самалёт Су-27 Баранавіцкай авіяцыйнай базы, пілатуемы У.Карватам, падчас выканання начнога палёту загарэўся і страціў кіраванне, знаходзячыся над вёскамі Вялікае Гацішча і Арабаўшчына. Нягледзячы на каманду катапультавацца, што паступіла з зямлі, пілот зрабіў усё магчымае, каб адвесці самалёт ад населеных пунктаў, і сам пакінуць машыну не паспеў. Трагедыя адбылася 23 траўня 1996 года ў 22 гадзіны 55 хвілін. Падпалкоўнік Уладзімір Карват стаў першым і пакуль адзіным Героем Беларусі. Сям'я Карвата нарэшце атрымала кватэру ў Баранавічах. Імем лётчыка-героя назвалі вуліцы ў некалькіх гарадах і населеных пунктах Беларусі.

*БелаПАН*

# Паміж намі, дамамі

*Гомель становіцца цэнтрам жаночага руху*

21—23 траўня ў Гомелі праходзіла міжнародная канферэнцыя *«Жанчына, сям'я, здаровы лад жыцця».* У ёй узялі ўдзел больш за 250 чалавек — палітычных і грамадскіх дзеячаў з краінаў СНД, Польшчы, Індыі, Кітая, Францыі, Шатландыі, ЗША, прадстаўнікі ААН і ЮНІСЕФ, міжнародных і рэгіянальных няўрадавых арганізацыяў.

Абмяркоўваліся праблемы ўдзелу жанчын у палітыцы, паляпшэння дабрабыту сям'і, перааддолення наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Самымі цікавымі былі выступы замежных дэлегатак. Прысутным, напрыклад, вельмі спадабалася інфармацыя пасла КНР у Беларусі У Сяо-Цю, што ў парламенце Кітая 21% жанчын, 16 кабет з'яўляюцца міністрамі і намеснікамі міністраў, а больш за 10 нясоць генеральскія пагоны. Гэтыя лічбы феміністкі сустрэлі авацыямі, не асабліва задумваючыся аб тым, як у камуністычным Кітаі фармуюцца ўрад і парламент.

Зала дружна рэагавала і на выступ выканаўчага дырэктара міжнароднай жаночай арганізацыі «Усход-Захад» Мелісы Стоўн, якая гаварыла пра маральнае прыніжэнне жанчыны ў сучасным грамадстве. Аратарка заклікала ўдзельніцаў канферэнцыі змагацца за права жанчын на атрыманне заданавальнення ва ўсіх магчымых формах і відах.

Аб самастойнасці жанчын у прафесійнай дзейнасці і пра цяжкую неабходнасць для кожнай кабеты сумяшчаць працу з абавязкамі галавы сям'і распавяла на кангрэсе Мішэль Андрэ, віцэ-мэр французскага горада Клермон-Феран, пабраціма Гомеля.

На пытанне карэспандэнта НАВІНАЎ пра ўражанні ад кангрэса Мішэль Андрэ адзначыла, што ў параўнанні з жаночым кангрэсам пяцігадовай даўнасці, які таксама праходзіў у Гомелі, беларускія жанчыны цяпер выказваюць свае патрабаванні ў больш катэгарычнай форме. Яны ўжо ўсведамляюць, што не могуць аказваць вялікі ўплыў на грамадскае і палітычнае жыццё, хоць імкнуцца да гэтага. Такая сітуацыя, лічыць лідэр французскай эмансіпацыі, была тыповай для Францыі 20 гадоў назад.

У якасці рэзюмэ можна прывесці словы аднаго з нешматлікіх мужчын, якія прымалі ўдзел у жаночай канферэнцыі: *«Калі раней жанчынам было дастаткова кіраваць мужчынамі, якія кіруюць светам, дык цяпер яны хочуць кіраваць светам непасрэдна».*

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

# Цэнтр для жанчын

*У Мінску адчыніўся Жаночы адукацыйна-кансультацыйны цэнтр*

Ён створаны дзякуючы партнёрству грамадскай арганізацыі «Жаночы Хрысціянска-дэмакратычны рух» і мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (IBB) пры фінансавай і тэхнічнай падтрымцы амерыканскага Агенцтва міжнароднага развіцця.

Як паведаміла дырэктар новага цэнтра Людміла Пеціна, сярод асноўных мэтаў арганізацыі — прадастаўленне інфармацыйных, адукацыйных, кансультацыйных паслугаў для павышэння канкурэнтаздольнасці жанчын у эканамічнай, грамадскай і палітычнай дзейнасці; ажыццяўленне культурнай трансфармацыі поглядаў на ролю жанчын у грамадстве, а таксама развіццё жаночага руху. Кансультацыйны аддзел будзе аказваць юрыдычную і псіхалагічную дапамогу жанчынам, якія трапілі ў крызісную сітуацыю (беспрацоўныя, ахвяры гвалту і г.д.). Жаночы цэнтр будзе працаваць у памяшканні IBB на праспекце «Праўды», 10.

*БелаПАН*

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# Сталічны гарсавет зацікавіўся незаконнымі арыштамі

**У Мінскім гарсавеце адбыліся дэпутацкія слуханні па пытанні аб парушэннях законнасці падчас масавых грамадска-палітычных мерапрыемстваў.**

На гэтыя слуханні Мінгарсавет выклікаў шэраг службовых асобаў, у тым ліку начальнікаў Цэнтральнага, Савецкага і Маскоўскага райаддзелаў міліцыі, старшыняў некаторых судоў, пракурора горада. Ніхто з пералічаных у гарсавет не з'явіўся (дэпутаты маюць намер высветліць, па якіх прычынах). Зрэшты, дэпутат Георгій Таразевіч выклаў сваю версію такіх паводзінаў: *«Яны не прыйшлі таму, што баяцца адказваць за тыя бясчынствы, якія чыняцца ў сферы прымянення закона».*

Замест высокіх чыноўнікаў перад дэпутатамі выступалі начальнік аддзела па масавых мерапрыемствах гарадскога ўпраўлення ўнутраных справаў М.Кандрацін і прадстаўнік гарадской пракуратуры А.Бычкоў. Яны падрабязна растлумачылі, што пры затрыманні міліцыянты абавязаныя прадстаўляцца і паказваць грамадзяніну дакументы; што па першым патрабаванні чалавеку павінны даць магчымасць патэлефанаваць з пастарунка сваякам, а калі затрыманы непаўнагадні, дык міліцыянты абавязаныя адразу тэлефанаваць бацькам і без патрабавання; што пракуратура дэталёва разбіраецца з кожным выпадкам парушэння міліцыянтамі закона, але нахонт гэтага сёлета маецца толькі 6 заяваў.

На гэта адказаў сакратар управы БНФ В.Сіўчык: *«Масавыя збіванні дэманстрантаў бачыў па тэлевізіі ўвесь свет, але не бачыла наша пракуратура. Агульнавядома, што падчас вулічных акцыяў былі многія сотні выпадкаў, калі міліцыя парушала законы — тым не менш, за гады праўлення Лукашэнкі не пакараны ні адзін міліцыянт. У такіх умовах звяртацца ў пракуратуру проста губляе сэнс».* Адвакатка В.Страмкоўская нагадала выпадак з непаўналетнім Дзмітрыем Васьковічам, якога пасля затрымання не кармілі чацвёра сутак. Якія там законы...

Увогуле ж, па словах М.Кандраціна, *«большасць масавых мерапрыемстваў праходзіць без парушэнняў парадку».* Да яго далучыўся і А.Бычкоў: *«Становішча нашмат лепшае і спакайнейшае, чым у мінулыя гады».* Чаму ж тады пасля ледзь не кожнай акцыі кагосьці абавязкова затрымліваюць? Чаму, калі ў цэлым усё спакойна, міліцыя пастаянна чапляецца да дэманстрантаў, чым сама ўзмацняе напружанасць? Чаму затрыманні робяць людзі ў цывільным, якія паводзяць сябе надзвычай груба і амаль ніколі не прадстаўляюцца (і гэта не адзінкавыя выпадкі, а агульная практыка)? Гэтыя пытанні практычна павіслі ў паветры. Начальнік аддзела па масавых мерапрыемствах толькі адзначыў, што калі людзі ў цывільным не паказваюць дакументаў, ім можна фізічна супраціўляцца, а нумары аўтамашынаў паведамляць у ГУУС.

Але вынік ад падобных паведамленняў, відавочна, будзе такі ж, як ад зваротаў у пракуратуру — нулявы. Міліцыянты нават не надта тояцца, здзяйсняючы правапарушэнні пры сведках, бо ведаюць, што іх хутчэй пакараюць за службовую стараннасць, чым пакараюць за парушэнні закона. Зразумела, у гэтым вінаватая не столькі міліцыя, колькі агульнае стаўленне рэжыму да любога пратэсту, заахвочванне беззаконня ў дачыненні да апазіцыі.

Таму наўрад ці ў нашых умовах зрэалізуецца прапанова Г.Таразевіча: кожны міліцыянт павінен насіць бляху, каб у выпадку чаго можна было ўстанавіць яго асобу. Рэжым грунтуе сваю палітыку якраз на супрацьлеглым — на ананімнасці і беспакаранасці, на тым, каб ускладніць любую праверку і каб цяжка было знайсці вінаватых.

Асобна паўстала пытанне былога дэпутата гарсавета Андрэя Завадскага. Кандрацін паведаміў, што Завадскі быў затрыманы 1 траўня разам з групай грамадзянаў, якія *«крычалі, размахвалі рукамі і хапалі адно аднаго за адзенне»* (так напісана ў міліцэйскім пратаколе). Мяркуючы па гэтым апісанні, можна падумаць, што ў першамайскіх урачыстасцях актыўна ўдзельнічала дэлегацыя ад дурдома (няясна, праўда, хто ў яе ўваходзіў — «група грамадзян» або тыя, хто складаў пратакол). *«Адкуль узяліся крывападцёкі на целе Завадскага — высветліць не ўдалося»,* — сказаў начальнік аддзела ГУУС. Завадскі заявіў, што будзе хадайнічаць аб узбуджэнні супраць міліцыянтаў крымінальнай справы за нанясенне цялесных пашкоджанняў, злоўжыванне службовым становішчам і службовы падлог.

На слуханнях прысутнічала прадстаўніца групы АБСЕ ў Беларусі Эмайн Конквіч.

Дэпутацкія слуханні — гэта папярэдні этап. Пытанне аб парушэннях законнасці падчас грамадска-палітычных мерапрыемстваў будзе разглядацца на сесіі Мінскага гарадскога савета ў сярэдзіне чэрвеня.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



**Аператары спецслужбаў — абавязковыя ўдзельнікі ўсіх акцыяў апазіцыі.**

*Россия — Украина*

## Москва встревожена позицией Киева

**Сегодня, 26 мая, министр иностранных дел РФ Евгений Примаков *(на снимке)* прибудет в Киев с двухдневным рабочим визитом по приглашению министра иностранных дел Украины Бориса Тарасюка.**



Программа визита предусматривает беседу Евгения Примакова с президентом Украины Леонидом Кучмой, а также переговоры с руководителем внешнеполитического ведомства Украины. В центре беседы и переговоров будут находиться вопросы нынешнего состояния и перспектив развития российско-украинских отношений, выполнение двусторонних договоренностей. Предполагается также углубленный обмен мнениями по международным делам. Будет обстоятельно рассмотрен ход подготовки очередной встречи президентов России и Украины в июне нынешнего года.

А накануне визита Примакова в Киев поступило неприятное известие из Москвы: заседание Госдумы, посвященное рассмотрению вопроса о ратификации Большого договора о дружбе и сотрудничестве между РФ и Украиной, оказалось перенесенным на июнь. Надо полагать, причиной переноса послужила не только предубежденность части российских парламентариев в отношении этого документа. Скорее всего, депутаты российской Думы были дополнительно встревожены пришедшей при помощи российского посольства в Киеве и распространенной в Думе информацией.

Речь идет о выступлении на семинаре «Процессы расширения *NATO* в Европе и безопасность Украины» министра иностранных дел Бориса Тарасюка. По информации, просочившейся из посольства, представители российской законодательной, да и не только законодательной, власти были не на шутку встревожены позицией украинского министра в плане декларирования однозначности принятого решения о вступлении Украины в *NATO*. Поговаривают, что даже Евгений Примаков намерен был отложить свой визит в Киев. Но опасения оказались неоправданными хотя бы потому, что российскому дипломату будет интересно узнать, насколько заявление министра иностранных дел Украины является стратегическим планом ныне действующего президента, а насколько — теоретической выкладкой «яйцеголовых» МИДа. 26 мая он это узнает из первых уст.

А пока председатель Госдумы РФ Геннадий Селезнев заявил о том, что направил письмо в Киев с просьбой разъяснить, *«какова позиция парламента Украины в отношении NATO»*. При этом спикер напомнил, что по Конституции основные положения внешней политики Украины формирует парламент. *«После того, как из Верховной Рады Украины будет получено ответное письмо, мы и рассмотрим вопрос о внесении в повестку дня палаты обсуждения проблем, связанных с ратификацией нашего совместного договора»*, — сказал Селезнев.

**Юлия МОСТОВАЯ**

## Почему в Балтии не любят русских?

*Своим мнением делится депутат Сейма Латвии, сторонник «жесткого» Закона «О гражданстве»*

**Юрис СИНКА**

Интеграция неграждан невозможна без знания государственного языка и истории страны. И еще: она не должна быть опутана ложью и лицемерием. Каждый негражданин, появившийся в Латвии после июня 1940 года, обязан осознавать свое происхождение и искать ответ на вопрос, почему он здесь оказался. Если этого не произойдет, в основе его жизни будет безразличие и высокомерие. Латыши, которые вынуждены были терпеть унижения в годы советской оккупации, никого не хотят унизить, но они ждут, что люди, оказавшиеся в Латвии без приглашения, продемонстрируют уважение к этой стране и ее народу. И это уважение должно идти от сердца, без принуждения, поскольку Латвия — это та земля, на которой эти люди и их потомки хотят жить, считая ее новой родиной. Без этого сознания нормальное сосуществование невозможно.

Я не могу понять, почему так много недоброжелательства, даже ненависти, исходило от пяти сотен митингующих в Верманском саду 14 мая? Притом обвинения и неприятие латышского языка и латышей исходили не только из рядов новых «национал-большевиков». Молодые русские, протестовавшие против рассматриваемого Сеймом проекта закона об образовании, выказывали явное нежелание осваивать латышский язык и требовали для русского статуса второго государственного языка.

Размышляя о судьбе миноритетных наций в свободной



*Юрис Синка родился в Риге в 1927 году. Закончил Оксфордский университет. После войны работал в английских учреждениях в Германии, позже — на радиостанции Би-Би-Си, в газете «Briva Latvija». Депутатом Сейма Латвии избирается второй срок подряд.*

Латвии до советской оккупации и о благополучном сосуществовании с русскими в те времена, я неизбежно прихожу к выводу, что этих юношей с неонацистскими или необольшевистскими взглядами родители не воспитывали как граждан новой отчизны. Я обвиняю их родителей и учителей в том, что они воспитали в детях столь враждебное отношение к Латвии и латышам.

Я регулярно получаю из Парижа газету «Русская мысль». В номере за 12-18 марта была опубликована статья под названием «Причины и смысл рижских беспорядков» по поводу демонстрации пенсионеров у Рижской думы 3 марта. Она написана московским православным священником Георгием Чистяковым. Статья меня поразила, поскольку после огромного количества необъективных комментариев, появившихся в российской прессе и других средствах массовой информации, я уже не верил, что можно услышать хоть что-нибудь разумное и сочувствующее латышам. Чистяков упомянул об оккупации Латвии и сказал, что среди русских в семидесятые годы ходило популярное выражение: *«Нас в Прибалтике не любят»*. *«В то же время*, — добавляет Чистяков, — *нельзя забывать, что в послереволюционный период именно в странах Балтии — так же, как во Франции, Чехословакии и на Балканах — убежище нашли русские, вынужденные бежать из Советской России. Православные церкви, русские газеты и клубы, издательства, книжные магазины, гимназии — все эти элементы русской жизни не только существовали в Эстонии, Латвии и Литве, но год из года развивались и составляли неотъемлемую часть общественной жизни, как во всех трех столицах, так и в провинции»*.

Такой проникновенной, эмоциональной оценки, естественно, невозможно ожидать от всех русских Латвии — это было бы чересчур хорошо. И все же хотелось бы услышать что-то более разумное, чем выкрики юношества на уже упомянутом митинге в Верманском саду: *«Кому принадлежит Латвия? Нам!»* Стоит спросить, о какой Латвии идет речь? И что означает: *«Нам!»*? И каким образом будущие граждане Латвии объяснят то, что латышский язык до сих пор называют *«собачьим»*, что мы слышали во время демонстрации 9 мая у так называемого памятника «Победы» в Пардаугаве? И не было ли символичным то, что оскорбительные реплики в адрес латышского языка выкрикивались в день, который для нас — граждан свободной Латвии — означает годовщину возобновления второй смертоносной советской оккупации? Совместимы ли такие оскорбления с интеграцией? И может ли кто-нибудь здесь, в Латвии, гарантировать, что неграждане, детям которых требуют автоматического присвоения гражданства, являются добропорядочными, лояльными кандидатами на интеграцию в Латвийское государство?

Перечисленные вопросы не единственные, которые латыши могли бы задать русским. Есть множество других, которые невозможно вместить в одну статью. Упомяну лишь еще один: почему в латышской столице Латвии, в седоглавой Риге, две трети населения не говорит по-латышски? Что произошло бы, если бы в Москве большинство жителей не говорило по-русски? Устроило бы это великий русский народ? А латыши и латышский язык оказались в роли пасынков и в Даугавпилсе, и во многих других городах Латвии. Каждый русский, который стремится стать лояльным гражданином Латвии, должен подумать об этом. Нельзя отбросить этот вопрос как несущественный и не имеющий никакого отношения к русским. Иными словами, судьба латышского языка и латышского народа должна стать общим делом граждан и кандидатов в граждане.

Стать гражданином Латвии означает сделать определенный ответственный выбор, принять на себя серьезные обязательства перед Латвией. Ну а если сохраняется желание жить с оглядкой и слушать, что скажет или прикажет Россия, то не стоит отбрасывать возможности вернуться в страну своих предков.



*Валдас Адамкус.*

## Ордэны «лясным братам»

**Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус уручыў дзяржаўныя ўзнагароды групе ўдзельнікаў антысавецкага супраціўлення 1949—1950 гг.**

На думку літоўскага прэзідэнта, партызанская барацьба ў Літве, якая распачалася ў 1944 г., не мае аналагаў у гісторыі. «Барацьбіты літоўскага супраціўлення змагаліся за свабоду без аніякай падтрымкі», — сказаў В.Адамкус і выказаў падзяку ўсім літоўскім партызанам — жывым і мёртвым. Ўзнагароды атрымалі 6 удзельнікаў супраціўлення, яшчэ семнаццаць былі ўзнагароджаны пасмяротна.

Сейм Літвы правёў 22 траўня паседжанне, прысвечанае 50-годдзю масавых дэпартацыяў і партызанскай барацьбе ў пасляваеннай Літве. Старшыня Сейма Вітаўтас Ландсбергіс заявіў, што, на ягоную думку, дэпартацыі ўяўлялі сабой сплнаваны генацыд супраць літоўскага народа. Падобныя злачынствы не павінны мець тэрміну даўнасці, — сцвярджае кіраўнік літоўскага парламента.

В.Ландсбергіс заявіў, што пасляваенная дэпартацыя літоўцаў органамі НКВД павінна расцэньвацца як ваеннае злачынства, і прапанаваў Сейму прыняць адпаведную рэзалюцыю.

## Ленин, экспортный вариант

**За 38 тысяч долларов был продан в Англии бронзовый бюст Ленина, вывезенный из Латвии.**

Купцом, выигравшим торги, оказался британский коллекционер, который намерен установить памятник вождю в собственном саду. Эта новость должна порадовать жителей Беларуси — ведь у нас, оказывается, есть уникальный «золотой запас» — в каждом районе. Становится ясно, почему наши власти так оберегают статуи Ленина.

## Ботинки для героя книги Гиннеса

**Найти нормальную обувь 63-го размера для самого высокого человека в мире далеко не просто.**

Сорокалетнему Александру Сизоненко из России (рост которого — 2,42 метра — занесен в Книгу рекордов Гиннесса) ради такого дела даже пришлось поехать в Германию и обратиться в компанию, выпускающую специальную обувь.

## Неплохая прибавка к пенсии

**По сообщению агентства *Reuter*, чета пенсионеров из пригорода Чикаго выиграла в лотерею 104 миллиона долларов.**

Фрэнк и Ширли Капацци решили поделиться этой суммой со своими тремя сыновьями и их семьями. А счастливый билет, который позволил им выиграть джек-пот, они купили в бакалейной лавочке. Любопытно, что шанс угадать правильно все 6 номеров был равен одному на 80 миллионов.

## Голливудские гонорары

**Американская актриса Вайнона Райдер воспользовалась своим статусом члена жюри Каннского кинофестиваля и выступила с речью о гонорарах голливудских звезд.**

Райдер возмущалась и требовала «срезать» зарплату звездам первого эшелона. Гонорары звезд напоминают телефонные номера: в них никак не меньше шести цифр, а то и все семь. Вот ряд звезд, чье вознаграждение «зашкаливает» за 20 миллионов долларов: Джон Траволта, Том Хэнкс, Арнольд Шварценеггер, Мел Гибсон, Сильвестр Сталлоне, Том Круз и милашка Леонардо Ди Каприо. Женщины — Деми Мур, Джулия Робертс, Шерон Стоун — зарабатывают в два-три раза меньше, но тоже не обижены.

*По сообщениям информационных агентств*

## Беларусаў няма сярод меншасцяў

**На мінулым тыдні ў Вільні адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў Літвы.**

Сёння ў Літве налічваецца каля 100 абшчынаў нацыянальных меншасцяў. Сярод іх ёсць шматтысячныя — польская і руская (кожная складае 7—8% усяго насельніцтва Літвы), зарэгістраваная пэўная колькасць шведаў, датчан, венграў — усяго па некалькі дзесяткаў чалавек. Паводле перапісу 1989 г., у Літве пражывае таксама адзін эскімос.

Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус выступіў на канферэнцыі з прамовай, падкрэсліўшы, што вялікую ролю нацыянальныя меншасці адыгрываюць у культурным жыцці Літвы. *«Я добра разумею праблемы нацыянальных меншасцяў*, — сказаў літоўскі прэзідэнт, — *бо сам доўга жыў у ЗША і працаваў там на карысць літоўскай абшчыны, нацыянальнай мовы і культуры»*.

Падчас канферэнцыі прадстаўнікі нацыянальных абшчынаў Літвы ўздымалі пытанні нацыянальных школаў, экзаменаў па афіцыйнай мове, узмацнення міжнародных сувязяў. Прадстаўнік урада запэўніў, што распрацаваны праект паправак у закон наконт нацыянальных праграмаў на радыё і тэлебачанні, каб яны мелі дастатковы аб'ём у эфірны час.

На канферэнцыі былі прадстаўлены нацыянальныя абшчыны ўкраінцаў, немцаў, палякаў, цыганоў, татараў, рускіх, армянаў, габрэяў, венграў і эстонцаў. Пра ўдзел беларускай абшчыны не паведамляецца.

## Літоўцы сталі болей есці

**З пачатку года ў Літве продаж ялавічыны і курацiны вырас на 10%.**

«Мы сталі болей есці», — рапартуе міністэрства статыстыкі. Сапраўды, сёлета адзначаны незвычайны рост вытворчасці ў жывёлагадоўлі. Пры гэтым Літва інтэнсіўна прабіваецца на еўрапейскі рынак. Літоўцы пераходзяць на «здаровае харчаванне» і спажываюць больш малака (продаж гэтага прадукту ўзрос на 19%), але ж і мяса не праходзіць міма — паводле статыстычных звестак, вытворчасць мяса складае прыкладна 1,25 кг на кожнага жыхара Літвы. А ў нас?

# Італьянец пабіў нашага



Італьянец Джакобе Фрагамені (на здымку злева) у выніку ўсё ж перамог беларуса Сяргея Дычкова.

**У нядзелю ўвечары ў Мінску фінішаваў чэмпіянат Еўропы па боксе. У спаборніцтвах бралі ўдзел 190 спартсменаў з 38 краінаў.**

Найлепшых вынікаў дасягнулі расіяне (4 залатыя, 1 срэбраны і 5 бронзавых медалёў) і ўкраінцы (2 залатыя, 2 срэбраныя і 1 бронзавы). Вельмі пасляховым можна лічыць і выступленне беларускіх баксёраў, на ліку якіх срэбраная і дзве бронзавыя ўзнагароды.

Бадай, самым цікавым і захапляльным быў бой беларуса Сяргея Дычкова і італьянца Джакобе Фрагамені — у катэгорыі да 91 кг. Мінчанін два раўнды атакаваў і ўпэўнена вёў бой з лікам 8:3, аднак італьянец урэшце праявіў свой паўднёвы тэмперамент і ўзмацніў націск, перад апошнім, пятым раўндам лік зраўняўся — 8:8, а ў заключным суддзі аддалі перавагу Фрагамені — 12:9. Аднак і срэбраны медаль Дычкова, і бронзавыя — Сяргея Быкоўскага з Віцебска і Вадзіма Мезгі з Магілёва — таксама вельмі добрае дасягненне.

**Барыс ТАСМАН**

ФЕСТЫВАЛЬ

# Адна прыбіральня на ўсе нацменшасці

**У мінулыя выхадныя ў Гродне адбыўся II рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур. У ім удзельнічалі прыблізна 800 прадстаўнікоў ад 14 нацыянальных суполак, у тым ліку беларускай.**

Перад адкрыццём адбылася скандальная прэс-канферэнцыя. Старшыня Саюза палякаў Т.Гавін абвінавацію арганізатараў у тым, што яны замест таго, каб матэрыяльна дапамагаць нацыянальным суполкам, марнуюць грошы на пампезныя мерапрыемствы з феерверкамі і банкетамі. Карацей кажучы, займаюцца паказухай. Мэр Гродна А.Пашкевіч адразу перайшоў у контратаку: маўляў, правы палякаў у нас не ўціскаюцца. А калі Гавін будзе абурацца, дык мэр звозіць журналістаў і пакажа, у якім шыкоўным катэджы «ў рускім стылі барока кампактна пражывае старшыня Саюза палякаў Гавін са сваёй сям'ёй». Сярод «чэсных» журналістаў адразу знайшоўся адзін, які прапанаваў зняць катэдж на відэакамеру.

Дапытлівыя прадстаўнікі прэсы прымусілі начальства прызнацца, што на фестываль затрачана «усяго 2 мільярды рублёў», хаця на славянскія базары ідзе ў 5 разоў больш. Мэр паскардзіўся пры гэтым, што на спешна адрамантаваных фасадах дамоў у цэнтры горада (па некаторых звестках, на гэта пайшло ад 30 да 50 мільярдаў рублёў) перад фестывалем паявіліся надпісы «Жыве Беларусь!». «Хай жыве, — пагадзіўся А.Пашкевіч, — але ўсё трэба рабіць з дазволу. Толькі папрасіце афіцыйна — і я вам дам напісаць гэтыя словы хоць на фасадзе гарвыканкама». Журналістка адной дзяржаўнай газеты, каб зняць напружанне, падзякавала гарадскім уладам за тое, што «цэлыя тры дні нашыя дзеці змогуць купляць на вуліцах шарыкі і булачкі».

Старшыня дзяржкамітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў А.Білык сказаў, што Беларусь — гэта цудоўны кілім з розных нацыянальнасцяў. Паэт С.Панізнік, які напісаў словы для гімна фестывалю, зазначыў: «Толькі каб ніхто не выціраў ногі аб гэты кілім». Увогуле ж фестываль быў арганізаваны някепска, адно перашкаджаў дождж і нечаканы холад. Міліцыі было безліч, як пры масавых беспарадках, але паводзіла яна сябе надзвычай далікатна. Адзінае, на што арганізатары аказаліся няздатнымі, — гэта рыцарская частка сцэнарыя. Спачатку планавалася запрасіць рыцарскія клубы з розных краінаў, нават з Іспаніі і Францыі. Але падчас самога фестывалю пра рыцарскія турніры ніхто ўжо нават не ўспамінаў.

Апроч танцаў са спевамі і феерверкаў, фестываль запоўніўся яшчэ чаргой у падземную прыбіральню на Савецкай плошчы — адзіную на тысячу ўдзельнікаў і гледачоў. Чарга не скончылася ўсе тры дні. Асабліва цяжка прыйшлося жанчынам: у мужчынскую прыбіральню вялікіх чэргаў не было, мужыкі спраўляліся хутчэй.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Свята і беднасць

**Адзінае, на што стабільна знаходзяць магілёўскія ўлады сродкі, — гэта пампезныя святы горада. Сёлета не адбылося выключэння.**

Тое, што адбываецца цяпер, уражвае нават бывалых магілёўцаў. За два дні яны пабачылі феерверк і салют, канцэрт расійскай эстраднай зоркі Леаніда Максімава ў суправаджэнні аркестра Міхаіла Фінберга і праграму з выступленняў лаўрэатаў Нацыянальнага тэлевізійнага фестывалю «Зорная ростань». У праграме і адзінае выступленне славутага аркестра маэстра Співакова «Віртуозы Масквы». Да галоўных падзеяў вертыкаль, безумоўна, аднесла і ўручэнне ганаровага сцяга. Фактычна вертыкаль уручала яго сама сабе, бо сцягам Магілёўскага аблвыканкама ўзнагароджваўся Магілёўскі гарвыканкам. Як кажуць, сам сабе кірую, сам сабе цешуся.

Урачыстасці, у гэтым годзе не прымеркаваныя ўжо ні да якой круглай даты, упершыню цягнуцца аж цэлы тыдзень. Падрыхтоўку да іх першымі адчулі на сабе ўладальнікі аўтамабіляў. За некалькі тыдняў да святаў пачалі рамантаваць дарогі ў цэнтральнай частцы горада. Гэта бадай адзінае, на што з карысцю пайшлі святочныя грошы. На больш важкія патрэбы сродкаў не знаходзяць — даўгабуд абласнога драмтэатра (НАВІНЫ пісалі пра гэта), як і гарадская бальніца, што знаходзіцца ў аварыйным стане, і іншыя месцы ў «святочным» спісе не ўзгадваюцца.

Карэспандэнт НАВІНАЎ паспрабаваў высветліць, які кошт гэтых святкаванняў. Суму даведацца не ўдалося — чыноўнікі кажуць, што, маўляў, расходы ідуць па розных артыкулах, таму сказаць цяжка...

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Джамалунгма – наша

**На самую высокую вяршыню Зямлі Джамалунгму (8.848 м) упершыню падняўся беларус.**

18 траўня ў 16 гадзін 35 хвілін на яе ўзышоў Віктар Кульбачэнка з горада Барысава Мінскай вобласці. Удала спусціўшыся з вяршыні і дабраўшыся да сталіцы Каралеўства Непал — Катманду, Віктар накіраваў паведамленне ў Беларусь аб пакарэнні высотнага полюса Зямлі.

*БелаПАН*

# TV не для ўсіх

**У мінскай галерэі сучаснага мастацтва «Шостая лінія» на вул. Я.Коласа, 14 адчынілася выстава маладой дызайнеркі Вольгі Варэннікавай «TV не для ўсіх».**

*«Тэлебачанне — гэта люстра нашага жыцця. Яно паказвае, наколькі хворае нашае грамадства»*, — упэўненая Вольга. Яна ўжо мела досвед працы на Беларускім тэлебачанні і лічыць, што ведае тэлекухню знутры. *«Як прафесіянал я разумею тэлебачанне, але як культурны чалавек — проста не ўспрымаю»*, — кажа мастачка.

У сваім канцэптуальным праекце В.Варэннікава імкнецца супрацьпаставіць свае фотаплакаты«маскульту» тэлебачання. *«Здыміце свой серыял! —* актыўна заклікае рэкламны буклет выставы. *— Тое, што вы ўбачыце на свае вочы, і ёсць тэлебачанне. І чым багацейшае вашае жыццё, тым яно цікавейшае»*. Я сапраўды лічу сваё жыццё багатым і цікавым, але прычым тут тэлебачанне?

*«Працы Вольгі Варэннікавай прадстаўляюць сабой сінтэз жывапісу, фатаграфіі, рэкламы, колеру, святла... Гэта вельмі добрая сучасная выстава»*, — гаворыць дырэктар галерэі «Шостая лінія» Ірына Бігдай. Як кожны прафесіянал, яна ганарыцца сваім прадуктам.

Незалежна ад таго, як ставіцеся да тэлебачання асабіста вы, вас чакаюць на выставе да 31 траўня з 14 да 18 гадзінаў штодня, акрамя суботы і нядзелі.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Даты і лёсы

## 29 траўня

**1453.** Канец Візантыі (Усходняй Рымскай Імперыі). Туркі ўзялі штурмам Канстанцінопаль — «Другі Рым», у бітве загінуў і апошні імператар Візантыі. Адзін з яго сыноў прадаў правы на візантыйскі пасад каралю Францыі; дачка другога сына Зоя пабралася шлюбам з маскоўскім князем Іванам III. Цяжка сказаць, які горад ёсць «трэцім Рымам» — Парыж ці Масква.

**1917.** Нарадзіўся Джон Фіцджэральд Кенэдзі — наймалодшы прэзідэнт ЗША і першы каталік на гэтай пасадзе. Па чутках, у Кенэдзі было шмат каханак, і нават у Белым доме па некалькі разоў на дзень ён меў жанчын. «Інакш, — казаў прэзідэнт, — мне вельмі баліць галава».

**1953.** Англійскі альпініст Эдмунд Хілары і яго праваднік непалец Тэнзін сталі першымі людзьмі, што ўзняліся на найвышэйшую вяршыню свету — Джамалунгму.

**1985.** На стадыёне *Heysal* у Бельгіі адбылася самая страшная бойка ў гісторыі еўрапейскага футбола. Бііся фанаты «Ліверпуля» і «Ювентуса» (каманды сустрэліся ў фінале Кубка Еўропы). Загінуў 41, былі параненыя 350 чалавек, пераважна італьянцы.

## 30 траўня

**1431.** Загінула на вогнішчы нацыянальная гераіня Францыі Жанна д'Арк. Яе абвінавацілі ў чараўніцтве і каханні з д'яблам. Хоць Жанну неадноўчы праверялі, ці дзева яна (касцёл вучыў, што дзева не можа мець сувязі з д'яблам, а Жанна была дзевай), інквізітары ўсё ж палічылі, што «д'ябал хітрыкам прабраўся ў яе душу». Цікава, што ўсе суддзі пасля загінулі пры загадкавых акалічнасцях. У 1921 г. Папа Бенедыкт XV кананізаваў Жанну, а ў народзе яна ўжо некалькі стагоддзяў лічыцца нябеснай заступніцай жаўнераў.

**1943.** У Маскве быў арыштаваны камандзір 208-га партызанскага атрада, што дзейнічаў у ваколіцах Мінска, генерал-маёр Уладзімір Нічыпаровіч. Яго выклікалі ў Маскву нібыта для пераводу на фронт, але абвінавацілі ў правалах Мінскага падполля і тры месяцы на Лубянцы выбівалі прызнанні ў здрадзе. Генерал аб'явіў галадоўку і праз некаторы час памёр.

**1961.** Партызаны забілі дыктатара Дамініканскай Рэспублікі Трухільё-і-Маліну. Цяпер гэтая дата адзначаецца як нацыянальнае свята, а пры жыцці прэзідэнта і генералісімуса ў маленькай краіне былі ўсталяваныя больш за 2.000 помнікаў Трухільё, яго імя атрымалі буйнейшы горны масіў, сталіца краіны і дзве правінцыі.

**1993.** Была створаная партыя БНФ.

## 31 траўня

Нацыянальнае свята Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.

**1223.** Мангола-татары разграмілі ўсходнеславянскія, палавецкія і булгарскія дружыны ў бітве на рацэ Калцы.

**1838.** Адбылася апошняя бітва на англійскай зямлі: урадавыя войскі разбілі паўстанцкі атрад кенцкіх сялянаў. З таго часу Брытанскія выспы не ведаюць збройных канфліктаў.

**1930.** Да канца траўня ў Беларусі было раскулачана 15.629 сялянскіх гаспадарак. Нават самі бальшавікі на бліжэйшым з'ездзе КПБ прызналі, што многія (каля 15%) сем'яў былі раскулачаныя неабгрунтавана.

**1938.** У Вялікабрытаніі на тэлеканале BBC пачаў выходзіць прадак гульні «Поле чудес» — *Spelling Bee.*

**1948.** Нарадзілася вядомая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч.

**1991.** У Аўстраліі пабралася шлюбам найстарэйшая нявеста: панна Міні Мунра мела тады 102 гады, а жаніх — 83.

## 1 чэрвеня

**1933.** У Мінску адчыніўся Беларускі інстытут народнай гаспадаркі (з 1991 г. — Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт).

**1946.** Да пачатку лета ў БССР было арыштавана 19.051 і знішчана 3.766 партызанаў, якіх абвінавацілі ў антысавецкай дзейнасці.

**1967.** Выйшаў найславуты ў гісторыі рок-музыкі альбом *The Beatles* «Аркестр клуба самотных сэрцаў сяржанта Пэпера». Вокладку альбома ўпрыгожваюць партрэты 62 славутых асобаў. Сярод іх — Альберт Эйнштэйн, Карл Маркс, Мэрылін Манро і самі «бітлы».

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

КАДРЫ



Irex ProMedia

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1192 Нумар падпісаны ў друк 25.05.98 (15:00) Наклад — 19.270